


# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

— 39 —

Па сутнасці ўсё, што я пішу ў гэтым цыкле, вынікае з маёй веры ў магчымасць адраджэння беларускай нацыянальнай свядомасці і адраджэння беларускай нацыянальнай мовы. І таму разглядаюся вакол сябе і тут, на Беласточчыне, і ў БССР, а таксама сярод беларускай эміграцыі. Аб беларускай эміграцыі ў Амерыцы пісаў я ўжо многа разоў і заўсёды падкрэсліваў выключную кансалідацыю беларусаў вакол нацыянальнай беларускай ідэі. І сам не ведаю, чаму не пісаў аб беларускай эміграцыі ў Англіі. Тым болей гэта дзіўна, што ў Амерыцы я быў усяго два разы, а ў Англіі дзесяць разоў, дзякуючы чаму намнога лепш ведаю англійскіх беларусаў, чым амерыканскіх.

У Англіі знаходзіцца параўнаўча нямнога беларусаў. Колькі? Па сутнасці я не ведаю. На так пастаўленае пытанне англійскія беларусы падаюць вельмі розныя лічбы, ад трохсот да некалькіх тысяч. Хто яны? Галоўным чынам гэта салдаты Андэрса. У вайне 1939 года трапілі яны як салдаты польскай арміі ў савецкі палон і павандравалі, як правіла, у савецкія шахты. Сербануўшы ў іх бяды, калі Сікорскі вербаваў салдат у сваю армію, амаль усе беларусы падаваліся за палякаў і дзякуючы гэтаму вырваліся з палону і шахтаў. Праз Іран, Егіпет і Італію, ваюючы з немцамі, ішлі ў Англію. Многія з іх пасля вайны вярнуліся дамоў. Адносілася гэта асабліва да беларусаў з Беласточчыны. Тыя, хто выводзіўся з земель, якія апынуліся ў межах БССР, пабаяліся вяртацца і засталіся. Вось з іх і ўфармавалася галоўным чынам беларуская эміграцыя ў Англіі.

Англійскай эміграцыі пашанцавала. Сярод эмігрантаў былі каталіцкія ксяндзы-мар'яны з моцнай беларускай свядомасцю. Былі яны, несумненна, найбольш адукаванымі сярод беларусаў, што давала ім магчымасць адыгрываць галоўную ролю ў беларускім руху. На чале мар'янаў стаяў чалавек выключнай дабрыні, пазнейшы біскуп Часлаў Сіповіч. Удалося яму сабраць вакол сябе не толькі значную групу ксяндзоў і манахаў-мар'янаў, але і амаль усіх англійскіх свядомых беларусаў, нягледзячы на тое, што з'яўляюцца яны ў большасці праваслаўнымі. Біскупу Сіповічу і яго галоўнаму памочніку — святару, сённяшняму апостальскаму візітатару Аляксандру Надсону ўдалося сабраць матэрыяльныя сродкі і купіць чатыры прыгожыя будынкі, у якіх змяшчаецца сёння уніяцкая царква, бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны. Групы беларусаў знаходзяцца і ў іншых гарадах Англіі, асабліва ў Манчэстэры і Брадфардзе. Якраз у гэтым горадзе жыве наш зямляк з Пасынак Янка Ясвіловіч. Рэлігійна беларусы Англіі падзеленыя. Большасць з іх праваслаўныя, меншасць — католікі і уніяты. Аднак успомнены Беларускі цэнтр, у якім вылучаецца перад усім Бібліятэка імя Скарыны, дзейнічае на лонданскіх беларусаў, як магніт на жалезныя апілкі.

Вялікую ролю ў захаванні еднасці англійскіх беларусаў адыгрывае Янка Міхалюк, які ўзначальвае Англа-беларускае таварыства. Янка Міхалюк мае цудоўную сям'ю — жонку і трох сыноў. Усю сваю энергію і час укладвае ён у ідэю актыўнага функцыянавання Беларускага цэнтра. Надсону і Міхалюку ўдалося згрупаваць не толькі англійскіх беларусаў, але і прыцягнуць да супрацоўніцтва карэнных англічан: Джэймса Дынглі, Арнольда Макміліна і жыхара Англіі, француза па паходжанню Гі дэ Пікарда. Усе яны вывучылі беларускую мову і заўсёды, калі іх бачу і слухаю, агортвае мяне сорам за ўсіх тых беларусаў, якія, жывучы на роднай зямлі, загубілі беларускую мову, а часта нават сталіся яе праграмнымі ворагамі.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

Згодна канцэпцыі рэформаў — прэзідэнт Рэчыпаспалітай Польскай **Лех Валэнса** рэалізуе сваю праграму. У гэтай праграме прадбачана таксама рэалізацыя ўзгодненага візіту ў Савецкі Саюз. Вызначэнне карыснага тэрміну адбываецца дыпламатычным шляхам, гаворыцца ў заяве прэсавага прадстаўніка прэзідэнта **Анджэя Джыцімскага** пасля таго, як прэсавы прадстаўнік прэзідэнта СССР **Віталій Ігнаценка** сказаў, што візіт Леха Валэнсы ў Маскву адтэрміноўваецца не па ініцыятыве СССР.

**Гадавіна перамогі** адзначалася ў гэтым годзе 8 мая (а не 9-га, як раней). Віцэ-міністр нацыянальнай абароны Януш Анышкевіч пракаментаваў, што „проста мы перайшлі з маскоўскага часу на сярэдне-еўрапейскі“. Акт капітуляцыі немцаў амерыканцы прынялі 8 мая.

**Беластоцкія чыноўнікі** прымуць удзел у паломніцтве ваяводы і працаўнікоў дзяржаўнай адміністрацыі ў Чанстахову. Пілігрымка пачынаецца 18 мая.

**Пажарнікі пратэстуюць.** У адкрытым лісце, адрасаваным грамадству, яны пішуць: „Зразумейце нашы патрэбы! Мы змагаемся выключна за стварэнне пажарнікам умоў, якія дазволяць нам лепш, больш эфектыўна і бяспечна дзейнічаць у вашай справе...“

**Сенат Варшаўскага універсітэта** адмоўна аднёсся да прапановы стварыць у Філіі ВУ у Беластоку дзве кафедры катахетыкі: каталіцкай і праваслаўнай. Восенню мінулага года Каталіцкі касцёл і Праваслаўная царква звярнуліся з просьбай да ўлад Філіі наладзіць супрацоўніцтва у падрыхтоўцы настаўнікаў рэлігіі. Прапанова Касцёла і Царквы была прынята і Рада Гуманітарнага аддзялення Філіі УВ збіралася адкрыць трохгадовую прафесіянальную студыю.

**У царкву ў Кленіках** узламаліся зладзеі, якія ўкралі 300 тысяч злотых. Знішчаны былі таксама царскія вароты, якія паходзілі са старой царквы, згарэўшай у 1973 годзе. Злачынцы ўжо выяўлены і знаходзяцца ў арышце.

**У Беластоку праходзіла навуковая канферэнцыя, прысвечаная даследаванням паўночна-ўсходніх земель Польшчы.** Адбывалася яна ў 30 гадавіну канферэнцыі, на якой было заснавана Беластоцкае навуковае таварыства. На пленарным пасяджэнні былі прачытаны два даклады: праф. **Станіслава Александровіча** „Роля Беластоцкага навуковага таварыства ў даследаваннях мінулага паўночна-ўсходніх земель Польшчы“ і праф. **Альжбеты Смулковай** „Сацыялінгвістычныя пытанні польска-літоўска-беларускага пагранічча“.

**„Пабрацімчыя справы. Польшча і Усход“** — пад такім лозунгам праходзіў сімпозіум у Супраслі. Яго арганізатарамі былі: рэдакцыя часопіса „Плюс“ і выдавецтва „Вэрсус“.

**18 мая ў Вільні адбудзецца перахаванне Івана Луцкевіча** (з Закапанага на могільнік Роса). У інфармацыі пра гэтую ўрачыстасць, якая друкавалася ў двух папярэдніх нумарах „Нівы“, у загалоўку было памылена імя, за што ў чытачоў і арганізатараў урачыстасці просім прабачэння.

# Хай жыве дружба!

Прыемны сюрпрыз беларусам Літвы зрабілі напярэдадні Вялікадня беларусы Польшчы, у прыватнасці, сябры Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Гданьску Алена Глагоўская, Ганна Іванюк, Міхась Куптэль і іншыя, якія сабралі і даслалі на адрас беларускіх згуртаванняў у Літве звыш дзесяці пасылак з прадуктамі харчавання. Былі тут і цукеркі, і печыва, і кава, і гарбата, і многае, многае іншае — усяго не пералічыш.

Усе гэтыя прадукты часткова ўжо трапілі (а рэшта трапіць) дзецям беларускіх нядзельных школак у Вільні, хворым ды адзінокім людзям сталейшага ўзросту, пойдуць на прыёмы нашых гасцей.

У сувязі з гэтым хачу выказаць ад імя Таварыства беларускай культуры ў Літве і клуба „Сябрына“, а таксама ад імя ўсіх беларусаў Вільні і Віленскага краю ўсім, хто меў тое ці іншае дачыненне да гэтай акцыі міласэрнасці ў такі складаны для нас час, шчырую падзяку.

Хай жыве і мацнее дружба між беларусамі Літвы і Польшчы, беларусамі ўсяго свету.

Жыве Беларусь!

З найлепшымі пажаданнямі сябра Клуба „Сябрына“ і Таварыства беларускай мовы ў Літве

**Людвіка Кардзіс**

### АБ'ЯВА

Напісаў нам мастак з БССР, які просіць дапамагчы яму падпісацца на двухмесячнік „Projekt“. Зараз у іх падпіска на польскія выданні не вядзецца. А можа хтосьці з нашых чытачоў захоча дапамагчы выпісаць яму жаданы часопіс? Вось яго адрас: 213410, Беларусь, Магілёўская вобласць, г. Горкі, вул. Матросава д. 20, Алег Якімовіч.

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ У СТУДЭНТАЎ НА ФІЛІІ

17 красавіка гэтага года ў Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку выступіў беларускі гісторык Мікола Ермаловіч, аўтар кнігі „Старажытная Беларусь". На сустрэчы прысутнічалі студэнты беластоцкіх навучальных устаноў, мясцовыя нашы гісторыкі ды журналісты „Нівы" і „Часопіса". Спадар Ермаловіч засяродзіўся ў сваім дакладзе на тэме фальсіфікацыі беларускай гісторыі.

Геаграфічнае палажэнне Беларусі дэтэрмінавала ейны гістарычны лёс. Факт, што займае яна тэрыторыю на сутыку Усходу і Захаду, тэрыторыю, на якой маюцца важныя ключавыя пункты, валоданне якімі адчыняла адным суседзям дарогу на Усход, а другім на Захад, абцяжарваў нашу гісторыю. Гэткая сітуацыя патрабавала ад беларускага народа выключных здольнасцяў і вытрымкі, каб зберагчы сваю тэрыторыю, культуру і мову. На працягу доўгіх стагоддзяў права беларускага народа на асобнасць і месца ў гісторыі аспрэчвалася. Фальсіфікацыя беларускай гісторыі асабліва ўзмацнілася ў савецкі час. Найбольш шкодзіў беларусам тэзіс аб бездзяржаўнасці Беларусі, маўляў, Беларусь на працягу ўсёй сваёй гісторыі дзяржаўнасці не мела і толькі ў выніку кастрычніцкага перавароту бальшавікі ўпершыню ўручылі гэту дзяржаўнасць беларускаму народу. Такім чынам беларусаў ставілі на ўзровень нейкіх пячорных людзей і чорнарабочых, якія працавалі на сваіх суседзяў. Беларусаў вечна заваёўвалі: спярша Кіеў, пазней Літва, Польшча. І толькі адна Расія быццам бы вызваліла Беларусь ад усіх гэтых прыгнятальнікаў. У савецкай гістарыяграфіі існаваў адзін такі тэзіс, які асабліва папулярызаваўся на Беларусі: паколькі ўсе народы ідуць да камунізму, які абазначае еднасць інтарэсаў, дык народы гэтыя павінны зліваццa, паступова трацiць свае нацыянальныя адметнасці. Каб навукова абгрунтаваць гэты тэзіс, гісторыкі заглядалі ў старажытнасць ды казалі, што калісьці існавала адна старажытнаруская народнасць, з якое і выдзяліліся тры братнія народы — беларускі, рускі і ўкраінскі. Указвалася тут на часы Кіеўскай Русі. Аднак жа, з канца X стагоддзя Полацкае княства, якое займала вялікую частку сучаснай Беларусі, выступае ў гісторыі як самастойнае дзяржаўнае ўтварэнне, якое на дадатак пастаянна змагаецца з Кіевам за сваю самастойнасць. У такім кантэксце казаць пра беларускі народ як частку агульнарускай народнасці пазбаўлена сэнсу. Якім чынам утвараліся беларуская, руская і ўкраінская народнасці? Утварэнне іх звязана з славянскім засяленнем тэрыторый Беларусі, Расіі і Украіны. На тэрыторыі гэтыя славяне даходзілі ў розныя часы, у сувязі з чым працэс тварэння народнасцяў цягнуўся праз некалькі стагоддзяў. Утварэнне той ці іншай народнасці было абумоўлена тым, якія плямёны пражывалі на данай тэрыторыі да прыходу славян. На тэрыторыі Беларусі ў гэты час жылі балцкія плямёны (продкі сучасных літоўцаў і латышоў), на тэрыторыі Расіі — угра-фінскія плямёны, а на тэрыторыі Украіны — цюркска-іранскія. У залежнасці ад таго, на які з гэтых трох субстратаў трапілі славяне, ад гэтага і пачалося фармаванне беларускай, рускай і ўкраінскай народнасцяў: беларускай на балцкім субстраце, рускай — на угра-фінскім, украінскай — на цюркска-іранскім. З гэтага відаць, што аніякай агульнарускай народнасці фактычна не магло быць. Ідучы далей, вядома, што народнасць з'яўляецца надзвычай устойлівай грамадскай еднасцю — калі яна ўжо ўтворыцца, дык яе не так лёгка разбурыць. Калі дапусціць факт існавання адной агульнарускай народнасці, дык што гэта была за народнасць — утварылася недзе, як кажуць даследчыкі, у палове IX стагоддзя, а ўжо ў пачатку XII распалася. Ці можна такі падыход да справы лічыць сур'ёзным? Хопіць глянуць на беларускую народнасць, якую стагоддзямі з абодвух, альбо і болей, бакоў імкнуцца падняволіць і разбурыць, а яна не толькі што не ўмірае, але жыве ды ўвесь час уваскрасае.

**Аляксандр Максімюк**
Фота аўтага



*Падчас сустрэчы.*

## БАС у АМЕРЫЦЫ

Споўнілася тое, што многія жартам прадказвалі ўжо ладных пару год таму — узнік гуртох БАСа ў Злучаных Штатах Амерыкі.

Аб стварэнні гуртка ўсур'ёз пачалі мы думаць у часе летняй сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Кліўлендзе, куды з'явілася больш за дзесятак басаўцаў. Пакуль здолелі зноў сабрацца такою грамадою, прайшлі тры месяцы. Нарэшце, 25 лістапада, сабраліся ў хаце Сельвесюкоў у Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі, які між сабою называем „родным Нью-Джэрсі". Гэтага дня заснавалі гурток і выбралі кіраўніцтва (праз аклямацыю, чым даказалі, што не парываем са сваімі цывілізацыйнымі каранямі). Прэзідэнтам гуртка стаў Валік Сельвясюк, скарбнікам — Бася Кучынская, а сакратаром ніжэй падпісаны (дзякуй Богу скончылася ўжо мая мука). Адзінай мэтай існавання гуртка, калі не лічыць наяўнага факту, што няма жыцця без роднай арганізацыі, з'яўляецца зборка грошай на дапамогу БАСу на бацькаўшчыне. Дзеля гэтага сябры гуртка ападаткаваліся на 5 долараў у месяц і глыбока задумаліся над спосабамі павелічэння сціплых фондаў. Пачалася дзейнасць.



На калядаванне спалучылі мы свае сілы з Аб'яднаннем беларуска-амерыканскай моладзі. Спяваць было цяжка, бо што ні проба, дык іншы дырыжор. Калі Пятро Скепка цягнуў на беластоцкую ноту, дык Ала Орса-Рамана на амерыканскую. Усё-ткі пад канец снежня, упэўнена ведзеныя Віктарам Турам і падмацаваныя праслаўленым у тутэйшым грамадстве крупніком спадарства Рагуляў (рэцэпт мае Мірак Пякарскі), абкалядавалі мы ўвесь Нью-Йорк, закончыўшы наш рэйд на парты ў Ані Бартуль. Крупніку ў Ані не было, таму пілі што папала (я — чысты „Абсолют").

На другі дзень пайшлі цэлай кампаніяй на славянскі канцэрт. Атмасфера як на агляздзе беларускай песні ў Беластоку, толькі багацей (Лінкольн-сентэр). Былі ўсе апрача чэхаў. Выступалі затое маравы, якім, відаць, ужо з чэхамі не па дарозе. Югаславы выконвалі македонскія танцы з Балгарыі, але не ведаю, што станецца з ансамблем, калі

**(Працяг на стар. 5)**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 40 —

### РАЗДЗЕЛ XX

**Літоўска-савецкі трактат ад дня 19.VII.1920 г. Цэнтральная Літва — дня 9.X.1920. Праекты Гіманса. Спроба пагаднення ўрада Ластоўскага з Польшчай у часе рыжскай канферэнцыі.**

Калі летам 1920 года польскае войска адыходзіла пад напорам бальшавіцкага наступлення, літоўцы пастанавілі выкарыстаць гэту сітуацыю, каб атрымаць тэрыторыі, на якія прэтэндавалі. З гэтай мэтай 19 лютага 1920 года быў падпісаны ў Маскве трактат паміж Каўнаскай Літвой і РСФСР, на падставе якога Літва атрымала ўсю спрэчную дагэтуль тэрыторыю ўключна з Вільняй, Гародняй, Лідай, Ашмянамі, Свянцянамі, цэлым Азёрскім паветам, часткай Віленскага. Сакольскага паветаў і г.д. Узамен за такое ўступства, Літва згадзілася на пераход праз названую тэрыторыю ваюючых з Польшчай савецкіх войск. Апрача гэтага, літоўскае войска перакрочыла „лінію Керзана“, якая размяжоўвала польскі элемент ад літоўскага, уварвалася ў этнаграфічную Польшчу, заняўшы Сувалкі, Сейны, атакуючы без аб'яўлення вайны падраздзяленні польскіх войск. Такім чынам дня 14 ліпеня літоўцы занялі Вільню.

Іх панаванне на занятых тэрыторыях не было доўгатрывалым. Польшча зраклася этнаграфічных літоўскіх земляў у паўночнай частцы былой Сувальскай губерніі, аднак лічыла, што Гародзеншчына, а перад усім Віленшчына павінны ўвайсці ў склад польскай дзяржавы.

І таму польскія войскі ў пераможным контрнаступленні 1920 года, ачышчаючы польскія землі ад бальшавікоў, вызвалілі Сейны і Сувалкі ад літоўскіх войск, а 9 кастрычніка 1920 года ген. Жалігоўскі заняў Вільню. Маскоўскі трактат, заключаны паміж Літвой і РСФСР, аказаўся пустой пісулькай.

Была створана цэнтральная Літва са сталіцай у Вільні. Панавала ў ёй „Кіруючая камісія“.

Літоўцы пры дапамозе дыпламатычных захадаў дамагаліся ад дзяржаў уключэння ў склад Літвы Віленшчыны. Захад разумеў, што Польшча дабравольна Вільні не зверне. У сувязі з гэтым Ліга нацый запрапанавала правесці плебісцыт, на што Літва не згадзілася. Тады Ліга нацый запрапанавала праект Гіманса, які датычыў аб'яднання Літвы і Польшчы. Польшча гэты праект патрактавала як падставу да дыскусіі. Літоўцы, аднак, у далейшым супрацьстаўляліся. Хаця гэты праект прымаў пад увагу многія з іх патрабаванняў, калі літоўцы не прынялі мадэрнізаванага праекту Гіманса, які браў пад увагу многія іх пажаданні, Ліга нацый прыйшла да вываду, што яе місія скончана, тым болей, што праект быў адкінуты таксама Польшчай.

Тагачасны начальнік Польскай дзяржавы Юзэф Пілсудскі лічыў, што лёсы праблематычнага краю павінна вырашыць насельніцтва. Згодна з гэтым, улады прыступілі да арганізацыі выяўлення волі насельніцтва Віленшчыны. Было пастаноўлена склікаць Віленскі Сейм, які меў акрэсліць свае адносіны да Польшчы. Справа выбараў будзе прадстаўлена ў далейшай частцы гэтай працы.

*(Працяг будзе)*

# БАС У АМЕРЫЦЫ

**(Працяг са стар. 3)**

Югаславія трэсне. Сёлета адбылося без скандалаў, але летась харваты абзывалі сербаў „сабакамі“ (магчыма таму, што харваты былі амерыканскія, а сербы канадскія).

За першынство, зразумела толькі ганаровае, бо аніякага конкурсу не было, змагаліся ўспомненыя сербы з украінцамі. Украінцы схапіліся былі за саблі ды падмацавалі свае рады адной мурынкай. Гэтым самым узмоцнілі сваю клаку, бо адзін як смала чорны ўкраінафіл апладзіраваў ім стоячы так заўзята, ажно ўсё заакіянскае славянства на яго загледзелася. Наш Данчык выступіў з годнасцю — за ніякія саблі, ні мурынкі не хапаўся.

Праз тыдзень калядавалі па родным Нью-Джэрсі, у Нью-Брансвіку і Саўт-Рыверы. Спачатку ішло нам кепскавата, але з кожнай наступнай хатай (і пачастункам) штораз лепей, а прынамсі мне так здавалася, калі замест свайго прыроднага барытона займеў я нейкае „бассо профундо“.

Калі наканец селі да вячэры, Валік, перакусіўшы піццай, глянуў прэзідэнту АБАМ глыбока ў вочы і запрапанаваў падзел грошай. Той жа вытрымаў нейкі час позірк Валіка, пасля чаго тутэйшыя загаварылі між сабою амерыканскай скарагаворкай. Тут успомнілася мне тое, што Валік прачытаў у „Хросным бацьку“. Мафіёзі, якія з вонкавым светам падтрымлівалі лучнасць на англійскай мове, на штодзень гаварылі па-італьянску, але калі прыходзіла што да чаго, скажам забойства, дык перакідаліся на сіцылійскую гаворку. Вырашылі мы з Валікам, што так і нам трэба: навонкі траскачы як сабе хочаш, між сабою па-беларуску, але калі што да чаго, дык па-падляшску. А з АБАМ нейк дагаворымся.

Моцным акордам басаўскай дзейнасці была сустрэча ў Фундацыі імя Крэчэўскага. Тутэйшыя пазнаёміліся з гісторыяй і дзейнасцю БАСа ды паглядзелі фільм пра „Басовішча“. Красамоўства Басі Кучынскай і шматлюдныя сцэнкі з беларускага Вудстока разагрэлі публіку. Спадар Кіпель, згледзеўшы вакаліста „Уліса“, успомніў, як сам у гады студэнцтва выконваў „танец жывата“ і зараз жа ахвяраваў 100 долараў на наступнае „Басовішча“. За ім паспяшалі іншыя.

Апошнім сходам амерыканскага гуртка БАСа, у якім давялося мне ўдзельнічаць, было, на жаль, маё развітанне. Месцам мерапрыемства быў бар „МакСорлейс“ на Манхатане, піўная са звыш стагадовай традыцыяй (першым басаўцам, які пакаштаваў варанага тут піва быў Лёнік). Ганаровым госцем сходу быў старшыня БАЗА спадар Шукелайць, вялікі знаўца Манхатана і прыхільнік БАСа. Сход вырашыў, што з гэтай пары „МакСорлейс“ будзе сталым месцам сходаў БАСа. Гэта добрая варажба на будучыню. Вядома з гісторыі, што не адзін вялікі грамадскі рух пачынаўся менавіта ў піўной.

І так, пакінуў я нашых сяброў у палове дарогі, не паспеўшы ажыццявіць многіх супольных задумаў. Што ж, такія развітанні быццам закадаваныя ў самай сутнасці амерыканскага гуртка БАСа.

**Адсутны**

наступілі ў Польшчы, беларусы абавязаны дзякаваць, толькі дзякаваць! Каму? Безумоўна, новай уладзе. Шчырасць і аўтэнтычнасць, і таксама энтузіязм, з якім фельетаніст вітаў новыя перамены і кідаў россыпы ўдзячнасці, нагадалі мне адразу старыя хронікі пачатку 50-тых гадоў, дзе на кінастужцы пабачыць можна юнакоў з ЗМП (Саюз польскай моладзі), якія шчыльнымі радамі, пад сцягамі і партрэтамі Сталіна і Берута, шпарылі ўперад з рыдлёўкамі на плячах.

— А сутнасць тут у чым? — запытае нецярплівы чытач.

Сутнасць вось у чым, шаноўныя: зараз, калі ў Польшчы бадай ці не сотня палітычных партыяў, і нікому невядома загадзя, якая з іх найбольш экстатычная, трэба прыняць іншую тактыку. Трэба дзякаваць і падлізвацца ўладзе, няважна, з аднае партыя яна, з партыйнай кааліцыі ці беспартыйнай хеўры. Магчыма, дадзякуемся да таго, што зверне яна на нас прыхільны погляд і пахваліць: і тады вось „беларускі авангард“ перажыве зноў адзін з тых незабыўных экстатычных момантаў. Салодка-перверсійнае парабкаўскае адчуванне.

Адчуванне больш інтэнсіўнае, калі прыдараецца яно ў гурце. Перада мною праект „Праграмнай дэкларацыі“ „дэмакратызаванага“ БГКТ. Рыхтуецца гуртавы момант: Towarzystwo uznaje zwierzchność Sejmu, Senatu, a także pochodzących z demokratycznych wyborów władz wojewódzkich i gminnych i nie potrzebuje wyłączności w reprezentowaniu Białorusinów w Polsce.

Парнаграфія ў наяўнасці. Застаецца толькі пазбыцца аднаго нахабніка, які, як вядома загадзя, у падобным эксцэсе ўдзельнічаць не будзе. Называецца ён Віктар Стахвюк і працуе сакратаром ГП БГКТ. Дык вось, гэты няўдзячны нікчэмнік не толькі што не хоча нікому падпарадкавацца (ні міністру, ні ваяводу, ні войту), але, о жах!, уважае, што грошы з Міністэрства культуры, якія служаць падтрымліванню экстатычнага самаадчування правадыроў БГКТ, павінны служыць культурна-асветніцкаму беларускаму руху ўвогуле. Вось гэтаму і быў прысвечаны пленум ГП БГКТ, які адбыўся 17 сакавіка. Паслухаўшы запіс дыскусіі на стужцы, я пераканаўся ў выдатна парнаграфічным характары таго пасяджэння. Здаецца, жаданага, экстазу не адбылося, што горш, знайшоўся яшчэ другі нахабнік, які бесцырымонна заявіў таварышам дэмакратам, што ад гэтага экстазу б'е памыйным смуродам, а не водарам чыстай насалоды. Вядома ж, нікога гэтымі метафарамі ён не пераканаў, і трэба паспачуваць яго наіўнасці. І папракнуць яго за тое, што пленум закончыўся як coitus interruptus, а не як эрупцыя гарачай удзячнасці ўсім бачаным і нябачаным за наш беларускі лёс дзякавічаў. Ці табе не сорамна, Максімюк?

**Ігнат Азіятовіч**

Не.

**Ян Максімюк**




**(Працяг са стар. 1)**

ня. І ў гэтай галіне зацікаўленне аграмаднае, але таксама шмат цяжкасцей. Апрача гэтага, трэба было правесці гарантыйны рамонт музейнага „рафіка“.

Асноўная мэта паездкі — вечарына, прысвечаная адкрыццю новага факультэта, адбылася 2 красавіка. У перапоўненай студэнцкай зале месца ў прэзідыуме занялі ўлады Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, а таксама прадстаўнікі мясцовых уладаў і наша прадстаўніцтва. Пасля прамоў прарэктара, дэкана, гасцей, выступіў Аляксандр Баршчэўскі, прамова якога была ўспрынята вельмі горача. Усе выступленні на беларускай мове. Затым адбылася мастацкая частка ў выкананні універсітэцкіх і самадзейных калектываў звонку.

Нечаканасцю для мяне было арганізаванне выкладчыкамі універсітэта „круглага стала“ ў справе працы новаўтворанага факультэта беларускай літаратуры і культуры. Вёў яго вядомы нашым чытачам дацэнт Алесь Пяткевіч. Я ніколі не спадзяваўся ад гродзенскіх навукоўцаў і прадстаўнікоў культурна-асветных устаноў такой рашучасці ў рэалізацыі адраджэнскіх плыняў у гэтым куточку Беларусі. Не было ніводнага выказвання супроць беларусізацыі ўсяго жыцця. Разыходжанні датычылі ў асноўным тактыкі. Адны лічылі, што насіленне гэтых працэсаў трэба звязваць з падрыхтоўкай падручнікаў і іншых дапаможнікаў, кадраў. Другія — што незалежна ад усіх цяжкасцей, правесці іх трэба як мага хутчэй. Усе падкрэслівалі будучае ўздзеянне выпускнікоў новага факультэта на запачаткаваныя працэсы адраджэння. Выказана многа канкрэтных заўваг і прапаноў наконт праграмы навучання.

Не абыйшлося і без сяброўскай сустрэчы.

Нашы выкладчыкі Аляксандр Баршчэўскі і Ян Чыквін asталіся яшчэ на некалькі дзён. Першы чытаў лекцыі на тэму беларускай эміграцыйнай літаратуры, а другі — беларускай літаратуры ў Польшчы.

Паездка была цікавай і павучальнай.

**У. Юзвюк**

# ФІЛЬМ ПРА БРАНІСЛАВА ТАРАШКЕВІЧА

**(Працяг са стар. 1)**

тут ён і „падглядзеў“ ягоную пляменніцу, сваю будучую жонку. Тарашкевіч доўга жыў у 30-м годзе ў Радашковічах, пасля працяглага турэмнага зняволення. Тут, па ўсёй верагоднасці, ён перапісваў на машынцы рукапіс свайго перакладу „Іліяды“, зробленага ў турме, у Грудзяндзы, мабыць... Пачаўшы ў Радашковічах, мы працягваем здымкі ў Польшчы. Тут імкнемся адлюстраваць ягоную дзейнасць як палітыка, як пасла ў польскі сейм. У Варшаве мы зрабілі як бы тры сюжэты: пабывалі ў гмаху польскага сейма, знялі там некалькі кадраў, каб, так бы мовіць, перадаць штосьці ад атмасферы выступленняў Тарашкевіча як беларускага пасла, потым запісалі выказванне Аляксандры Бергман, даўняй даследніцы жыцця і дзейнасці Тарашкевіча, а потым пабывалі на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, дзе яе кіраўнік А. Баршчэўскі даў сваё бачанне гэтай постаці...

— *А на Беласточчыне?*

— Беласточчына — гэта наступны этап нашай кінавандроўкі шляхамі Б. Тарашкевіча. Па-першае, ён на Беласточчыне — постаць вядомая, тут Беларуская сялянска-работніцкая грамада мела шмат прыхільнікаў... Тут ёсць ліцэй, у Бельску, які носіць ягонае імя... У ім, дарэчы, мы таксама пабывалі і зрабілі матэрыял. Былі таксама і ў беластоцкай турме, у якой даводзілася быць і нашаму герою, у сваіх шматпакутных турэмных „вандроўках“. Далей, мы ўзялі сінхрон у Сакрата Яновіча, аўтара п'есы пра Тарашкевіча („Арышт“).

— *Як будзе называцца ваш фільм?*

— „Нявольнік свабоды“ хутчэй за ўсё. Барацьба за свабоду свайго народа была для Тарашкевіча сэнсам жыцця. Дзеля гэтага ён ахвяраваў і сваёй асабістай свабодай. У даваеннай Польшчы шэсць гадоў свайго жыцця ён правёў у турмах... Канешне, тае свабоды для свайго народа яму не ўдалося дасягнуць, але ж ягонае змаганне не прапала бясследна. Тут, на Беласточчыне, у беларускім грамадска-палітычным руху я бачу як бы нейкі працяг справы Тарашкевіча...

— *Што пасля Беласточчыны?*

— Нам хацелася б паказаць яшчэ шмат каго, хто памятае самога Тарашкевіча, ці нейкім чынам меў дачыненне да беларускага палітычнага руху ў міжваеннай Польшчы. Але нас надзвычай абмяжоўваюць часавыя рамкі фільма. Намерваемся зрабіць матэрыял у Гародні з кампазітарам Шыдлоўскім, які ў свой час сядзеў на Лукішках разам з Тарашкевічам і памятае, як той напісаў там, у астрозе, гімн „Грамады“...

— *На заканчэнне нашай размовы: ваша асабістае зацікаўленне Б. Тарашкевічам — гэта выключна зацікаўленне навукоўца-біёграфа, ці, можа, былі нейкія і больш асабістыя прычыны гэтаму?*

— Пра Тарашкевіча, пра „Грамаду“ я чуў у дзяцінстве ад сваіх бацькоў на роднай Смаргоншчыне... Памятаю, што часам у доме спявалася „Ад веку мы спалі“... Шмат хто з маёй радні быў у актывістах „Грамады“. Потым, калі я стаў даследаваць духоўнае беларускае жыццё ў Заходняй Беларусі, постаць Б. Тарашкевіча сама сабой выступіла на першы план...

Размаўляў **Ян Максімюк**




**(Працяг са стар. 6)**

Polsce). Мая аргументацыя такая:

1. Каталіцкі касцёл у Польшчы, хаця ён вельмі моцна польскі, а нават народніцка-польскі, афіцыйна называецца Каталіцкі касцёл у Польшчы (Kościół Katolicki w Polsce).

2. Каталікі-ўкраінцы (уніяты) не саромяцца слова **царква** і свой касцёл называюць Украінскай грэкакаталіцкай царквою (Ukraińska Cerkiew Greckokatolicka) — глядзі: „Niechlubny spór“ — „Gazeta Wyborcza“ z 16.04.1991 r., s. 2; „Po ingresie biskupa“ — „Trybuna Ludu“ z 16.04.1991 r., s. 5.

3. Назва „Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква“ заключае ў сабе элементы рабалепства.

4. Больш як 90 працэнтаў вернікаў Праваслаўнай царквы ў Польшчы гэта беларусы і ўкраінцы. Назва „Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква“ (Polski Autokefaliczny Kościół Prawosławny) нясе ў сабе паланізатарскі змест у адносінах да нацыянальных меншасцяў у Польшчы.

Мы павінны пратэставаць супраць замацавання ў новым законе назвы Polski Autokefaliczny Kościół Prawosławny і выказацца за назву Prawosławna Autokefaliczna Cerkiew w Polsce. У гэтай справе павінны мы пісаць у Сеймавую Камісію нацыянальных меншасцяў, у Сінод Епіскапаў Праваслаўнай Царквы, у друк.

Думаю, што калі мой ліст будзе надрукаваны, то на гэтую тэму напішуць і іншыя чытачы „Нівы“.

**Ю. З.**

(імя і прозвішча да ведама рэдакцыі)



## НЕНАДЗЕЙНАЯ АЗДОБА

Каб спытаць у нейкага жыхара Белавежы, што гэта стаіць у яго мястэчку побач з чыгуначным прыпынкам, я ўпэўнены, што той толькі ўзрушыў бы плячыма. Бо і фактычна — ні то астанкі нейкай павеці, ні то куча драўніны... А ў сапраўднасці гэта мастацкая кампазіцыя. Выставіў яе вясной 1979 г. Іеранім Жміеўскі, паляк з Амерыкі, які ўдзельнічаў у XIII Скульптурных сустрэчах у Гайнаўцы. Кампазіцыя называецца „Узнясенне“.

Можна па-рознаму ацэньваць гэтую працу, але бадай кожны прызнае, што яна зараз не толькі не ўпрыгожвае той закавулак мястэчка, у якім знаходзіцца, але (ёй ужо 12 гадоў) яна пачынае ад старасці рассыпацца. Беручы ўсё гэта пад увагу, улады гміны павінны вырашыць, як быць далей. Рамантаваць кампазіцыю, ці проста разабраць яе і паставіць на гэтым месцы штосьці іншае, больш цікавае і прыгожае.

Тэкст і фота **Пятра Байко**

сферы вартасцяў, так і інтарэсаў. Дзеля галоўнай ідэі стварыць паўнапраўную і раўнапраўную супольнасць дзяржаў Усходняй Еўропы трэба перамагчы існуючыя надалей адмоўныя этнічныя стэрэатыпы, падтрымоўваць аб'ектыўную інфармацыю, прызнаць патрэбу фармаваць побач з нацыянальнай тоеснасцю пачуццё ўсходнееўрапейскай звыштоеснасці. У такой сітуацыі трэба падтрымоўваць усе салідарныя дзеянні з мэтай захаваць вартасці і інтарэсы ўсіх дзяржаў супольнасці, а асноўнай умовай для ліквідавання міжнацыянальных антаганізмаў павінна быць прызнанне сённяшніх граніц унутры супольнасці трывалымі і непарушальнымі, а таксама прызнанне права на шырокую аўтаномію ўсім нацыянальным меншасцям ва ўсіх дзяржавах.

Прафесар Альжбета Смулкова з Варшаўскага універсітэта гаварыла пра ролю Каталіцкага касцёла ў суседніх дзяржавах. Напрыклад, на Беларусі палякі ўспрымаюць Касцёл як апору польскасці, а беларусы — як крыніцу паланізацыі. Далікатнай справай з'яўляецца **мова ў** Касцёле і ў вырашэнні гэтага пытання патрэбная двухбаковая талерантнасць. Беларуская мова ўводзіцца ў тых касцёлах, дзе ёсць такая патрэба, а зараз назіраецца штораз больш такіх намаганняў. Прафесар А. Смулкова звярнула таксама ўвагу на патрэбу доўгатэрміновага дзеяння дзеля перамены мысленных стэрэатыпаў, якія далей фармуюць міжнацыянальныя адносіны.

Уступную частку семінара заканчылі выказванні Леона Брадоўскага — старшыні Клуба любіцеляў Літвы, рэдактара часопіса „Літуанія“. У сваім выступленні выявіў ён няспеласць польскай палітычнай думкі ў адносінах да Усходу. На глебе нацыяналізму і сталінізму ўзнікла грозная з'ява, якую ён назваў эндасталінізмам і якая мае наступныя элементы — лозунгі:

— Польшча для палякаў (антыуніверсалізм),
— паляк-католік (антыэкуменізм),
— чысты (сапраўдны) паляк (антысемітызм),
— прарускасць (незалежна ад палітычнага ладу),
— антынямецкасць (незалежна ад палітычнага ладу),
— нацыянальная салідарнасць (згода за любую цану),
— комплекс непаўнацэннасці перад Захадам,
— комплекс звышцэннасці перад Усходам,
— клерыкалізм,
— нацыянальны касцёл (недавер да Ватыкана).

Галоўная праблема польскай усходняй палітыкі такая: як ператварыць польскі нібыта геапалітычны фатум у шанц.

Далейшая частка семінара праводзілася ў тэматычных блоках: „Польшча — Украіна“, „Польшча — Беларусь“ і „Польшча — Літва“.

Беларускаму блоку старшыняваў Мікола Давідзюк з Лодзі, а з уступнымі дакладамі выступілі: Яўген Міраповіч, Юры Туронак і аўтар гэтых радкоў. Яўген Міраповіч гаварыў аб гістарычных абумоўленнях польскай усходняй палітыкі. У пасляваенны перыяд палітыка ў адносінах да нацыянальных меншасцяў была неаднародная, падвяргалася пастаянным зменам, матывы якіх і сёння нельга выявіць да канца. Узнікае ў сувязі з гэтым многа пытанняў. Напрыклад: чаму польскія ўлады не падтрымоўвалі старанні савецкіх камісараў у гадах 1945—1946 перасяліць беларускае насельніцтва за лінію Керзана? Чаму ў 1948 г. пачалася акцыя адкрываць на Беласточчыне беларускія школы, якія два гады раней былі ліквідаваны ў адміністрацыйным парадку? На гэтыя і многія іншыя пытанні адказаў няма пакуль не вывучаны яшчэ архівы.

Я засяродзіўся на спрэчных пытаннях, якія выступаюць на польска-беларускім сумежжы ў наш час. Паказваў на такія з'явы, як непрызнаванне праблемы беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне, абвінавачанне беларусаў у спробах адлучыць Беласточчыну ад Польшчы, рэлігійныя адносіны на

**(Працяг на стар. 8)**

# СПРЭЧНЫЯ ПЫТАННІ

(Працяг са стар. 7)

тэрыторыі, населенай беларусамі.

Выступленне Юрыя Туронка прысвечана было магчымасці супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы. У сувязі з тым, што арганізатары семінара прапанавалі стварыць усходнееўрапейскую супольнасць, дакладчык прыпомніў, што пару месяцаў раней (23—24 лістапада 1990 г.) у Мінску на сустрэчы парламенцкіх груп Латвіі, Літвы, Беларусі і Украіны (Эстонія далучылася пазней) была прынята канцэпцыя стварыць Балтыйска-Чарнаморскую супольнасць (БЧС). Была прынята палітычная дэкларацыя і тры рэзалюцыі (аб узаемным гаспадарчым і гуманітарным супрацоўніцтве, аб вывадзе савецкіх войск і стварэнні народных узброеных сілаў), а таксама зварот да Вярхоўнага Савета Расіі.

— Не разумею, — сказаў Юры Туронак, — чаму ініцыятары семінара не зарэагавалі на канцэпцыю БЧС. Нічога аб гэтым не гаворыцца ні ў дакументах, ні ў выказваннях дакладчыкаў. Канцэпцыя БЧС гэта тая ж самая рэгіянальная структура, што прапануе таварыства „Прыбліжэнне“, за выключэннем таго, што без Польшчы.

Прамоўца прапанаваў арганізатарам наладзіць кантакт з Балтыйска-Чарнаморскай супольнасцю і запрасіць іх прадстаўнікоў на чарговы семінар.

Асобная дыскусія над беларускімі справамі не выйшла, бо арганізатары вырашылі адразу прадставіць і літоўскі блок, а тады адкрыць супольную дыскусію. З розных многіх выказванняў запамяталіся мне адкрыцці д-р Аляксандры Немчыковай, якая лічыць, што Беларусь яшчэ не даспела да таго, каб мець уласную дзяржаву, упраўляць ёю і самастойна весці міжнародную палітыку (— Такі атрымаўся скрыгат між Польшчай і Беларуссю, калі міністр Скубішэўскі быў у Мінску! — сказала).

У выніку семінара будзе створаны рапарт „Спрэчныя міжнацыянальныя пытанні ва Усходняй Еўропе. Магчымыя вырашэнні“, які будзе пералікам уступных прапаноў вырашэння міжнацыянальных канфліктаў. Гэты рапарт будзе перададзены Прэзідэнту Рэчыпаспалітай Польскай, адпаведным урадавым і навуковым чыннікам, а таксама Сейму і Сенату. Мае ён дапамагчы Польшчы „увайсці ў Еўропу“.

**В. Луба**

## Патаргаваў

Калі сваякі Васіля даведаліся, што хоча ён быць прадаўцом, пачалі адгаварваць. У матэматыцы быў слабы, а тут жа штодзённая матэматыка!

Васіль быў упарты. Узяў двух жырантаў, якія падпісалі пазыку ў ГСе. Пачаў працаваць. Найгорш было палічыць усе ўтаргаваныя грошы за прададзены тавар. Ніколі не ведаў, усё ў парадку ці не.

Крамны камітэт памагаў яму ў гэтым, але абрыдла: „Лічы сам, ты ж прадавец!“

Што ж было рабіць. Лічыў сам. Аднойчы пералічыў касу за цэлы час сваёй работы і яму здавалася, што бракуе шмат грошай. Нікому нічога не гаворачы, пачаў прадаваць што меў лепшага дома і здаваць у банк на рахунак ГСу.

Калі прыехалі рабіць падлік, аказалася, „суперата“.

— Адкуль яна ў вас паявілася? — пытаў шэф.

Васіль расказаў праўду. Прэзас і кадравыя смяяліся. Васіля звольнілі з працы.

Усе ў вёсцы смяяліся і гаварылі, што Бог адабраў яму розум. А тут жа была віна толькі ў тым, што матэматыкі ў школе не навучылі!

**Аўрора**



## СОУСЫ

### ХРЭННЫ

**На 3 лыжкі сцертага хрэну трэба ўзяць 1 лыжку мукі, 1 лыжку масла, паўшклянкі густой смятаны, 1 шклянку булёну ці адвар з гародніны, соль, цукар, лімонны сок.**

**Муку прасеяць, развесці яе некалькімі лыжачкамі халоднага булёну або адвару з гародніны. Рэшту булёну або адвар закіпяціць, уліць муку, размяшаць, дадаць масла і сцерты хрэн, смятану, заправіць соллю, цукрам і лімонным сокам.**

### ЦЫБУЛЬНЫ

**На 35 дэкаў цыбулі ўзяць 1 лыжку тлушчу, 3/4 шклянкі малака, паўшклянкі смятаны, 1 лыжку мукі, 1 жаўток, перац, соль, цукар.**

**Цыбулю абабраць, памыць, падтушыць хвіліну з тлушчам, заліць кіпетнем (3/4 шклянкі), пасаліць, зварыць. Тады працерці праз сіта, закіпяціць. У кіпецень уліць прасеяную муку, разведзеную некалькімі лыжкамі малака. Давесці да кіпення, зняць з агню. Дадаць малако, перамешанае з жаўтком, уліць смятану, мяшаць, заправіць соллю і перцам. Можна дадаць крыху цукру.**

**Падаюць гэты соус да мясных страў.**

### ГРЫБНЫ

**На 3 дэкі сушаных грыбоў трэба ўзяць 1 лыжку мукі, 1 лыжку тлушчу, паўшклянкі смятаны, соль і перац па смаку, 3 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.**

**Сушаныя грыбы памыць, намачыць і пакінуць на другі дзень. Зварыць у той жа вадзе, у якой мачыліся. Вараныя грыбы нарэзаць дробнай костачкай. Растапіць масла (не падсмажваць яго!), перамяшаць з прасеянай мукой, развесці астуджаным адварам з грыбоў, уліць у рэшту гарачага адвару, памешваючы, закіпяціць. Дадаць нарэзаныя грыбы. Зняць з агню, дадаць смятану, соль і перац, а тады дробна пасечаную зяляніну.**

**Грыбны соус падаюць да мясных і рыбных страў, а таксама да яечак і розных каш.**

### МАЛОЧНЫ

**На паўтары шклянкі малака трэба ўзяць паўтары лыжкі мукі, паўтары лыжкі масла, 3 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, соль, перац.**

**Муку прасеяць, развесці некалькімі лыжкамі халоднага малака. Рэшту малака закіпяціць, у кіпецень уліць муку, памешваючы, давесці да кіпення. Калі закіпіць, зняць з агню, дадаць масла і пасечаную пятрушку. Перамяшаць, дадаць солі і перцу, можна дадаць яшчэ крыху сцертага жоўтага сыру.**

**Малочным соусам паліваюць вараную гародніну.**

**Гаспадыня**



Сэрцайка, і мне і маёй сяброўцы па 23 гады. Мы разам з ёй вучыліся ў ліцэі і разам пайшлі вучыцца далей ва універсітэт. Сябруем вельмі моцна да сёння, аднак у некаторых справах, асабліва жыццёвых, у нас часта здараюцца разыходжанні.

Мяне знервавала ў апошні час адна справа. Маёй сяброўцы вельмі не падабаецца, як я апранаюся. Яна лічыць, што трэба апранацца скромна, а я вельмі люблю рэчы модныя. Калі я апранута нямодна, дык проста хворая. Ну, і ўрэшце, падумай, Сэрцайка, для каго ж гэтая мода існуе?! Мая сяброўка пераконвае мяне, што сапраўдная прыгажосць і элегантнасць падкрэсліваецца скромнай, але прыгожай вопраткай, а што моду прыдумваюць адны капіталісты для другіх капіталістаў, каб тыя мелі на што выдаваць грошы. І яшчэ яна лічыць, што мне не выпадае выцягваць ад маці апошнія грошы, якіх у яе і так не замнога, бо бацька з намі не жыве, на вопратку. І нічога пры гэтым ёй не дакажаш: што мама мне шые сама, што я таксама ўмею шыць, што вяжам розныя рэчы з нітак самі і тады гэта ўсё выходзіць намнога танней. Пэўна, заглядаю і ў журналы мод. Бо яны ж урэшце для людзей, а не толькі для капіталістаў... А зусім ужо яна мяне абразіла, калі сказала, што ўсё гэта я раблю, каб сцягнуць на сябе ўвагу мужчын. А ты ж сама, Сэрцайка, пісала, што жанчыны апранаюцца выключна для жанчын, ну, і крыху можа, для сябе. Я адчуваю сябе добра толькі ў модным адзенні. Калі, напрыклад, носяць доўгія спадніцы — дык я ў доўгай, калі штаны — дык у штанах, калі міні — дык у кароценькіх спадніцах. Але мушу змяняць вопратку часта, бо яна мне вельмі хутка прыядаецца. Аднак жа стараюся і перарабляць нешта са старога, або порам з мамай старыя свэтры і робім новыя. Скажы, калі ласка, ці мае рацыю мая сяброўка, якая лічыць, што трэба насіць скромныя паліто, спаднічкі прызваітай даўжыні, не занадта кароткія і не занадта доўгія, і наогул прэфераваць спакойны стыль апранання? А што наконт падабання хлопцам?

**Ганна**

Ганна! Тваё пытанне я падзяліла на дзве часткі. Першая — гэта тое, як мае апранацца дзяўчына. Думаю, што павінна апранацца так, каб адчуваць сябе добра. Свет людзей неаднолькавы. Кожны мае права мець свой густ і свае ўпадабанні. Калі б усе апраналіся пад адзін густ, вуліцы былі б вельмі аднастайныя, а нават смешныя. Маладосць, думаю, мае права і павінна выкарыстаць свае шанцы. Апранацца, як бабулька, твая сяброўка яшчэ паспее. Тым больш, што мода сёння дэмакратычная, бо моднае і доўгае, і кароткае, і штаны. У модзе найважнейшая — тэндэнцыя, якой трэба прытрымлівацца. Адным словам, трэба апранацца модна, але каб не перасаліць з гэтай модай. Тады ўжо будзе не зусім элегантна!

Што датычыцца другой праблемы, менавіта, ці дзяўчына, апранаючыся, хоча падабацца мужчынам, дык магу сказаць, што кожная дзяўчына, жанчына, а нават старэча падабацца хоча, а якімі гэта робіць сродкамі, гэта ўжо іншая справа. Нават звяры і птушкі, калі надыходзіць збліжэнне паміж самкай і самцам, мыюцца, упрыгожваюць свае пер'і, хочуць падабацца. А свет людзей у гэтых адносінах нямногім адрозніваецца ад звярынага свету.

Так што думаю, нічога заганнага ў тваіх паводзінах няма. Растлумач сваёй сяброўцы, што падкрэсліваючы сваю асобу скромнай вопраткай, яна таксама хоча падабацца мужчынам.

**Сэрцайка**



Дарагі Астроне! Сніцца мне так. Быццам я іду праз вёску. Мінаю яе і раптам апынуўся ў другой вёсцы, якая знаходзіцца на высокай гары. Але вёска гэтая зусім іншая ад тае першай. Вельмі прыгожыя тут будоўлі. Відаць нейкі касцёл з вежамі. Я стаю і захапляюся гэтай ваколіцай. І так сабе думаю: „Быў я ўжо калісь у падобнай вёсцы, якая таксама знаходзілася на гары, але гэта яшчэ прыгажэйшая“. Гара гэта была каля самай граніцы і далей ужо нельга было ісці. Што можа абазначаць гэты мой сон?

**Мікалай**

Астроне, мне прысніўся вельмі дзіўны сон. Прыснілася мне, што я са сваім малодшым братам кахаюся і цалуюся ў ложку. Мой брат толькі ў трусіках, а я ў белай кашульцы. Я свайго брата цалую, а ў яго вачах бачу страх, таму што ён не ўмее цалавацца. Усё гэта дзеецца ў маім доме, у адным з пакояў. Памятаю толькі, што ў гэтым пакоі было так светла, што аж бела. Ці мой сон прадвяшчае нешта кепскае?

**Марта**

Мікалай! Твой сон, хаця на першы погляд мог бы здавацца добрым, усё ж такі прадвяшчае нейкія клопаты і звязаны ў сувязі з імі смутак. Але можаш спадзявацца добрага выхаду справы. Аб гэтым сведчыла б тое хараство навокал.

Марта! А твой сон гаворыць аб тым, што ёсць у цябе нейкія фальшывыя сябры, ад якіх неспадзявана адчуеш праявы няшчырасці. Асцерагайся фальшу! А можа проста табе ўжо пара замуж?...

**Астрон**



# Зорка
## Старонка для дзяцей

## Для самых маленькіх

Віктар Гардзей

### ЗЯЗЮЛЬКА

А зязюлька не заспала,
У садку закукавала.
Я зязюльку папрасіла,
Каб гадкі мне палічыла.
Закувала на суку,
Я лічу яе ку-ку
У вясновым светлым лесе:
Два... Чатыры...
Восем... Дзесяць...
Дваццаць...
Трыццаць пяць...
І — сорак...
Пяцьдзесят налічыць скора...
— Ой, не трэба больш, зязюлька,
Зробіш ты мяне бабулькай!

### ЧЫРВОНЫ ГРАБЕНЬЧЫК

Пэўна, з выпадку нядзелькі
Дастаў певень камізэльку.
Паяском падперазаўся.
Над карытцам прычасаўся.
Выйшаў певень за вароты —
Зарыпелі ў пеўня боты.
На галоўцы на ягонай
Грабянец які чырвоны!
„Пойдзе ў госці!
Пойдзе ў госці? —
Пеўню куры ўсе
Зайздросцяць. —
Вось дык грэбень!
Вось дык грэбень!
Нам якраз такі патрэбен.
О-хо-хо!
Не дасць, напэўна!"
І бягуць услед за пеўнем.
І мурзатыя,
І кудлатыя,
Недаспаныя,
Нечасаныя...
Каля пеўня ўюцца раннем,
Дзівяцца з яго убрання.
І сакочуць,
І сакочуць —
Грабянец пазычыць
Хочуць.


Талісман „Зоркі" — Брыся. Фота М. Лукшы.


— Паглядзі, які я прыгожы!.. Фота М. Лукшы.

## ТРЫ СЫНЫ АЎЧАРА

(латышская казка)

Служыў у аднаго караля аўчар. Было ў яго тры сыны. Хацеў аўчар навучыць іх свайму няхітраму рамяству, ды ў сыноў сэрца не ляжала да гэтай работы. Вось і вырашылі яны — пахадзіць па белым свеце ды пашукаць рамяства кожнаму дaспадобы. Абяцалі свайму бацьку вярнуцца праз тры гады, і пайшлі.

Свае дзеці — ці блізка, ці далёка — заўсёды ў бацькоў у сэрцы: аўчар авечак пасе, сыр робіць, сыноў добрым словам успамінае — не заўважыў, як тры гады праляцелі.

Прыйшла пара, і сыны тут як тут — вярнуліся дадому. Старэйшы прыйшоў з іголкай, сярэдні — з самастрэлам, а малодшы прывёў на повадзе жалезнага каня. У аўчара — радасць, і кароль прыбег з трыма сваімі дочкамі паглядзець на аўчаровых сыноў, што з імі сталася. Пытае кароль у іх — чаму навучыліся?

Старэйшы сын кажа:

— Я вучыўся ў краўца. Магу зашыць усё, што парвецца, ды так, што не відаць будзе ні шва, ні латкі!

Кінуў тут кароль на зямлю яйка. Разбілася яно на дробныя кавалачкі. Кароль і кажа — няхай кравец сшые яйка. Справа майстра баіцца — як пачаў старэйшы сын махаць сваёй іголкай ды ніткай, усе дзівіліся, вось і яйка — цалюткае, нібы і не разбівалася!

Сярэдні сын кажа:

— Я вучыўся ў стралка. Магу паслаць сваю стралу куды хачу і не прамахнуся!

— А на месяц? — пытае кароль.

— І на месяц! — адказвае стралок.

Прыжмурыў ён сваё трапнае вока, кажа: — На месяцы цячэ сіняя рака, на беразе ракі — зялёны чарот, у чароце — белая качка, у той качкі — залаты чубок. Адаб'ю я ў качкі яе залаты чубок!

Заклаў ён стралу ў свой самастрэл, нацягнуў цеціву, спусціў курок — паляцела страла ў неба, жаласна заспявала. На месяцы як быццам іскры пасыпаліся, залатыя перайкі разляцеліся.

— А як бы нам качку паглядзець? — кажа кароль.

Тады малодшы сын аўчара адказвае яму:

— Я вучыўся ў каваля — усё магу выкаваць. Вось выкаваў я жалезнага каня. Імчыць гэты конь па зямлі, па вадзе і па паветры! Сядайце на каня, палянім на месяц — ці праўду мой брат кажа, што адбіў у той качкі чубок!

(Працяг на стар. 10)

## Вучнёўская творчасць

Творы вучняў III „ц" класа з бельскай „тройкі".

### ВЯСНА

Ідзе вясна з лесу
З ключыкамі залатымі.
Усе радуюцца, смяюцца,
Вясною любуюцца.

Кветкі квітнеюць,
Дрэвы маладзеюць.
Дзеці песні спяваюць —
Вясну вітаюць.

Буслы прылятаюць
І жабак шукаюць —
Птушачкі спяваюць —
Усе вясну вітаюць.

Прыходзь да нас,
Вясна сонечная, зялёная.
Так доўга цябе мы чакалі
І песні спявалі.

Ігар Якуць

* * *

Свеціць ярчэй сонца,
Зацвітаюць кветкі.
Ідзе к нам вясна —
Цешацца ўсе дзеткі.

Ізабела Навумчук

### УЖО ВЯСНА!

Лугам рыжым,
Полем чорным
Ды раздзетым гаем
Прабіваецца да нас вясна.
— Вас вітаю з маем!
З першым громам
Ды з вясёлым
Дождживкам — вітаю!

Магда Карзуновіч

Янка Целушэцкі

### Май

На змену красавіку прыйшоў паэтычны месяц кветак і спеву — май. Белай пенай закіпелі сады. У голлі яблынь і вішняў — пчаліная музыка. Бела-ружовым полымем гарыць бэз. Лёгка і п'яна пахне маладое лісце. Так хораша распусціліся зубчатыя лісточкі бярозы і мядовыя лапкі клёна. Па вільготных лясных закутках моцна запахлі ландышы.

Шчыруе сонца. На двары цяплынь. У сіняве цюрлюкае жаўрук. У зарасніках бэзу і парэчак выводзіць свае трэлі салавей. Усюды кіпіць жыццё, усюды рух, усюды гоман...

У сярэдзіне мая замаўкаюць салаўі. У канцы — пачынаюць асыпацца пялёсткі бэзу...

# ТРЫ СЫНЫ АЎЧАРА

(Працяг са стар. 9)

Кароль узрадаваўся, нібы малое дзіця, — першы ўзлез на каня, ужо хоча крычаць „Но! Но!“ Дочкі — за каралём. За імі аўчар і браты. Перакінуў каваль грыву каня на другі бок. Узвіўся конь і паляцеў. Толькі вецер свішча, кароль за карону трымаецца, дочкі — за спадніцы, аўчар — за бараду!

Прыляцелі яны на месяц. А там сіняя рэчка, і зялёны чарот, і белая качка — усё, як стралок сказаў, толькі залатога чубка не відаць — ганяе вецер па месяцу залатыя перайкі, перакатвае з месца на месца. Пашкадавалі каралеўны качку. Тут кравец перайкі сабраў, на месца паставіў, давай сваёй доўгай іголкай махаць. Раз, два, тры — чубок на месцы, як і быў.

Селі яны зноў на каня і памчаліся назад, конь толькі капытамі хмаркі раскідае. Не паспелі азірнуцца — ужо зноў каля авечай загарадзі стаяць.

Пагледзелі каралеўскія дочкі на сыноў аўчара — што за малайцы! І прычапіліся да караля — аддавай іх замуж за сыноў аўчара. Кароль туды, сюды, а нічога з дзеўкамі не зробіш, калі ім што ў галаву ўзбрыдзе! Ды і што казаць — спадабаліся каралеўскім дочкам хлопцы з умелымі рукамі, ім цяпер ніхто не міл: за купца ісці — толькі і ведае, што людзей ашукваць! За прыдворнага — толькі і ведае, што пяткі лізаць! За вяльможу — толькі і ведае, што ўгору нос задзіраць! За пана — толькі і ведае, што з мужыка скуру лупіць!

Не вельмі ўжо гэта каралю спадабалася, ды што з жанчынамі зробіш. Загадаў кароль піва варыць ды вяселле гуляць. Падзяліў ён сваё каралеўства на тры часткі і аддаў разумным зяцям. І адгулялі ўсе тры вясельлі разам. Вось ужо было весела!

Мяне таксама запрашалі, ды пайсці не было ў чым. Тады прыслаў мне кароль шкляныя гамашы, папяровую вопратку ды масляную шапку. Прыбраўся я так, што сам сябе не пазнаў! Пайшоў на вяселле. Эх! Каб трохі бліжэй было ісці! — а то як пайшоў я па каменнях, дык і разбіліся мае дораныя гамашы, як пайшоў тут дождж — дык і разлезлася мая дораная вопратка, як прыгрэла сонца — дык і растала мая дораная шапка! Не прыйшлося мне пагуляць на вяселлі.

Ды вы ў суседскага ката запытайце, ён на вяселлі пабыў — ён і раскажа, як там было весела. Вось ён па страсе ідзе. Гэй, коцік, хадзі сюды, цябе клічуць!

## Вершы Віктара Шведа

### КОЛЬКІ МНЕ БЫЛО ГАДКОЎ?

— Колькі ты гадоў меў, тата,
Калі я прыйшоў у хату?
— Вось тады мне пачалося
Дваццаць восем.
— Колькі ж мне гадкоў, цікава,
Споўнілася, — спытаў
Славік, —
Калі татка нарадзіўся?
Я ўжо з панталыку збіўся...

### ТРЭБА МЕНШ СПАЦЬ

— Мне ноччу снілася, павер,
Я на будове інжынер,
Будую аграмадны дом,
Рабочых поўненька кругом.
Ды што рабіць, — спытаў
Лявон, —
Каб споўніцца мог гэты сон?
— Раду табе магу я даць:
Меней, сыночак, трэба спаць!

## малюнкі школьнікаў



*Малюнак Юліты Баршчэўскай, вуч. V класа школы ў Трасцяніцы.*

  

## Паглыбляй свае веды

### РАБЧЫК

Рабчык — птушка сям'і цецеруковых атрад курынападобных. Жыве ў лясной зоне Еўропы і Паўночнай Азіі, на Беларусі звычайны аседлы від. Рабчык трапляецца ва ўсіх тыпах лесу з добра развітым падростам і падлескамі з елкі, ляшчыны, рабіны, крушыны, вярбы. Пазбягае адкрытых месцаў і чыстых хваёвых бароў. Напалоханы ўзлятае з шумам.

Рабчык большы час праводзіць на зямлі. Корміцца суквеццямі, пупышкамі, зялёнымі часткамі раслін, насеннем, ягадамі, насякомымі.

Даўжыня цела рабчыка — каля 30 см, маса да 400 грам. Апярэнне рабое (адсюль назва) з чорнымі, бурымі, шэрымі і белымі крапінкамі. У самца на галаве чубок і чорная плямка на горле. Хвост са светлай абляможкай на канцы.

Рабчык — манагам. Такуе вясной і ўвосень. У шлюбны перыяд (канец сакавіка — пачатак красавіка) самцы падаюць меладычны свіст, бегаюць за самкай, ахвотна ідуць на імітаваны свіст.

Самка будуе гняздо і наседжвае кладку яек. Гняздо рабчыка — ямка каля дрэва, куста,



на купіне імху, каля кучы ламачча, высланая травой, лісцем, ігліцай і іншым. Кладка (7-8, радзей 4-12 аліўкавых з бурымі крапінкамі яек) у другой палавіне красавіка, наседжванне яек — 19-22 сутак. Птушаняты рабчыка вылупліваюцца апушаныя, здольныя бегаць. Праз 10-11 дзён могуць узлятаць на галіны дрэў, у 2 месяцы дасягаюць памераў дарослых птушак.

Рабчыкі зімуюць парамі ці па аднаму. Часта на ноч закопваюцца ў снег.

Беларускія гульні

### ІВАНКА

**Апісанне гульні:** на зямлі рысуюць круг дыяметрам 5—6 м — лес, а ў сярэдзіне круга квадрацік — дом лесавіка. У квадраціку змяшчаюць Іванку (ляльку, мяч, кубік) і выбіраюць лесавіка. Астатнія ігракі — лебедзі. Лебедзі, залятаючы ў лес, спрабуюць забраць Іванку, а лесавік — злавіць лебедзя рукой або дакрануцца да яго галінкай. Лебедзь, якому ўдасца вынесці з лесу Іванку, становіцца лесавіком, і гульня пачынаецца спачатку. Злоўленыя лебедзі выбываюць з гульні.

**Правілы гульні:** лесавік не мае права выходзіць з лесу і ўвесь час стаіць каля дома, а лебедзь схапіўшы Іванку, — перадаваць яго іншым.

Казімір Камейша

### СКОРАГАВОРКІ

* ✲ *

Чорны кот,
як камінар,
Лапай кратае
ліхтар.
Зверху каркае варона:
— Кр-р-ратаць лапай
р-р-рызыкоўна!

* ✲ *

Шыкоўныя Машы
Купіўшы камашы,
Прыйшоў я дадому:
Нямашака Машы.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

231352, БССР, Гродзенская вобласць, Іўеўскі раён, п/о Трабы, в. Сенькенята. **Красоўская Таня** (13 гадоў, хоча пазнаёміцца з дзяўчынкай).

## Вясёлы куточак

### ТАКАЯ БЯДА

Сустрэўшы вучня, сусед запытаў:
— Іванка, ты перайшоў у другі клас?
— Нашыя вучні ўсе перайшлі, а я і мая настаўніца засталіся на другі год.



АДГАДАНКА

*Колькі кругоў і прамавугольнікаў на гэтым малюнку?*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

